*З родным словам кроў не стыне...*
А. Бабаед




# НАРАДОК

№6

*студзень 2000*

Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

# Не згіне роднае слова

У Мінску адбылося ўрачыстае паседжанне, прысвечанае 10-м угодкам з дня прыняцця закона "Аб мовах" 26 студзеня 1990 года. На ім прысутнічалі сябры Таварыства беларускай мовы, якія сабраліся з усіх рэгіёнаў краіны, а таксама ганаровыя госці: вядомыя дзеячы нацыянальнай культуры і навукі, пісьменнікі, мастакі, палітыкі, святары, дыпламаты, сярод якіх Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Міхаіл Чыгір, Радзім Гарэцкі, Мечыслаў Грыб, Уладзіслаў Завальнюк і іншыя.

Адкрыў паседжанне старшыня рэспубліканскай Рады ТБМ Алег Трусаў. З палымянымі словамі звярнуліся да прысутных і ўсіх прыхільнікаў і абаронцаў роднага слова Ніл Гілевіч і Генадзь Бураўкін. Доктар гістарычных навук Леанід Лыч нагадаў гісторыю бязлітаснага вынішчэння мовы беларусаў на працягу двух апошніх стагоддзяў русіфікатарамі ўсіх масцей.

Закон, прыняты ў 1990 годзе, надаваў беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы і тым самым даваў ёй шанц на ўратаванне, адраджэнне і развіццё. Зараз у закон унесены змяненні, абвешчана "двухмоўе", якое фактычна зводзіцца да рускамоўя, а беларускасць зноў нішчыцца паўсюдна.

Але, нягледзячы на ўсе перашкоды, мова нашых продкаў жыве, што пераканаўча засведчыў мінулагодні перапіс насельніцтва.

Завяршылася ўрачыстасць цудоўным канцэртам, у якім выступілі кіраўнік тэатра аднаго акцёра "Зніч" Галіна Дзягілева, барды Эдуард Акулаў і Валерый Пазнякевіч, фальклорны гурт "Берагіня" з Мётчанскай школы Барысаўскага раёна, праслаўлены дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята".

Прысутных яднала перакананне: не згіне роднае слова, а з мовай уваскрэсне і Беларусь!

В. Гракун

# СКАРБ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Мы ўнаследавалі ад сваіх дзядоў і прадзедаў багацце, якім можна ганарыцца перад цэлым светам. Не злічыць паэтычныя скарбы беларускага народа, невымерная сіламоц яго мастацкага генія. Тысячы казак і паданняў, легенд і песень, прыпевак і прыказак – гэта бязмежны свет, які ўвабраў у сябе ўсё жыццё, усе радасці і пакуты, надзеі і мары людзей.

Тлумачэнне гэтаму ў своеасаблівасці гістарычнага лёсу беларускага народу. Вякамі ён не меў умоў для развіцця навукі і асветы, літаратуры і мастацтва на нацыянальнай глебе. Народ, які даў чалавецтву вялікага асветніка эпохі адраджэння, першадрукара на землях усходнеславянскіх Францішка Скарыну, выдатнага паэта Міколу Гусоўскага, мысліцеляў і вучоных Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Мяленція Сматрыцкага, - гэты народ гібеў, не маючы права нават вучыць дзяцей на сваёй роднай мове, выдаваць свае кнігі і газеты. Але народ захаваў сябе, ён жыў і ўсе свае мары і памкненні, любоў і нянавісць укладваў у вусны безыменных песняроў і расказчыкаў.

Наша бяда з таго, што мы яшчэ слаба ведаем сваё мінулае, сваю гісторыю. Як бедна і гаротна ні жыў у мінулым народ – ён быў Народ, вялікі веліччу творчага духу, высакароднасцю маралі, сілай і харaством таленту, дужасцю веры, крылатасцю мар. Сярод забабонаў і дзікунства нашмат больш было мудрасці і святла, шчодрасці і дабрыні, што і склала фальклор.

Горка, але многія адарваліся ад духоўнай глебы стагоддзяў, перайшлі на ўжыванне сучаснага культурнага шырпатрэбу, які ідзе ў наступ на чалавецтва нахабна і ваяўніча.

Многія на змаглі падняцца да разумення, што самым вялікім і неацэнным каштоўным скарбам у духоўнай спадчыне народа з'яўляецца яго мова, і ставяцца да гэтага скарбу абыякава, раўнадушна, а то і зусім нігілістычна. На жаль, гэта датычыць і тых, што прэтэндуюць на годнасць творцаў нацыянальнай культуры.

Вось і прыкінем цяпер, колькі ж работы чакае ўсіх і кожнага, хто не на словах, а на справе хоча клапаціцца пра вялікую і прыгожую спадчыну для нашчадкаў. Вялікая работа ў імя вялікай мэты абуджае і вялікае натхненне. Мы будзем рабіць гэта, каб спадчына, не перастаўшы быць " маёй, уласнай, асабістай", стала "нашай, агульнай, усіхнай".

***Ніл Гілевіч, з уступу да кнігі пра фальклор і мову нашай Бацькаўшчыны "Мой белы дзень"***

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*



## Уладзімір Асокін

*Сення мы друкуем падборку вершаў бешанковіцкага паэта Уладзіміра Асокіна. Уладзімір нарадзіўся ў вёсцы Асавец 17 лістапада 1966 года. Закончыў аграномічны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, працаваў аграномам у калгасе. Вершы пачаў пісаць будучы студэнтам. Рэгулярна друкуецца ў раённай газеце "Зара". У яго шмат лірычных вершаў, перапоўненых пачуццямі. Але не менш хвалюе паэта і вясковая тэматыка, родныя краявіды. І над усім гэтым — любоў да роднай Беларусі.*

### ЗЕМЛЯКАМ ВЁСКІ АСАВЕЦ

Стаяць пустыя хаты
Адама і Панкрата,
Аксінні і Хадоссі,
Рыгора, Васіля.

Сваё адгаравалі,
Спявалі, працавалі.
Па іх засумавалі
Палеткі і ралля.

Хаваем мы Яўменню.
Зямліцы кінем жменю,
Стаім у задуменні
Ля хісткага крыжа.

Сабрала ўсіх Яўменія-
Усё сваё карэнне,
Схіліліся вяскоўцы
Жалобна над труной.

Успомнілі казанні,
І песні, і гулянні –
Яўменія маладзіца
Вясёлая была.

Здаецца, што над вёскай
Тых песень адгалоскі,
Ці то лунае птушкай
Бязгрэшная душа?

Век верыла ў Бога,
Не крыўдзіла нікога.
Хай мяккім пухам стане
Ёй родная зямля.

### ПАСЛЯ ЎЧАРАШНЯГА

жарт

Бачыцца, ці трызніцца – жонка з качаргой.
- Мілая, каханая, што гэта з табой?
- Памятаеш, родненькі, што ты ўчора вёрз?
Каб не выйшла з хаты я, - да стаўба б прымёрз!

- Дарагая, мілая, мне сустрэўся кум,
Выпілі па чарачцы – ў галаве затлум.
Панясла нячыстая нас у рэстаран,
Памятаю, выпілі не адзін стакан.

- Ты ж прапіў палучку, чорт цябе дзяры!
І блудзіў без розуму ноччу ў двары,
"Снікерсам" і півам Рэкса частаваў
І яго чамусьці Любай называў.

### ЗАБЫТАЯ КАДРЫЛЯ

Закрытыя клубы, няма вечарынак,
Хоць свецяць у хатах агні.
Раней, без святла, пры траскучых лучынах,
Ды радасней вёскі жылі.
Казалі, як пойдзе ў скокі Марыля,
Яе ўжо нічым не суняць!
Лявоніха, полька, а потым кадрыля, -
Аж дошкі пад ёй зарыпяць.
Разыйдзецца так, што няма супакою,
Віхураць хлапцы ля яе,
З ёй хочуць кадрылю прайсці чарадою.
У адказ ім Марыля спяе
Такую прыпеўку, што смех раздаецца,
Збягаюць хлапцы да дзвярэй,
Не ведаюць дзеўкі, куды ім падзецца –
На вуліцу ходу хутчэй.
Прабеглі гады, пастарэла Марыля.
Успамінам душу зварухне.
...Бяда, што даўно ўжо не скачуць кадрылю
Ў сяле, дзе Марыля жыве.

### СПОВЕДЗЬ ДУШЫ

Я ў сэрцы берагу вішнёвыя завеі,
Ласкавы шэпт шумлівай збажыны.
Радзіма, без цябе душа мялее,-
Адведаў я палыну чужыны.

Перад вачыма – ціхія азёры,
Зарослыя чаротам берагі,
Іх асвятляюць жнівеньскія зоры
І саграюць у студзені снягі.

Мне не забыць знаёмыя мясціны,
Сінь васількоў і крыкі жураўлёў.
Душу вярэдзяць мілыя ўспаміны -
Нідзе я шчасця болей не знайшоў.

# АДКУЛЬ НАШ РОД

*Выйшла з друку новая кніга вядомага беларускага пісьменніка, даследчыка гісторыі нашай Бацькаўшчыны Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род".Яна дапамагае чытачам адкрыць вочы на сапраўдную, ачышчаную ад хлусні гісторыю, пазбаўляе ад убітых у свядомасць беларусаў гістарычных міфаў аб непаўнавартасці нашай нацыі, ставіць Беларусь на тое пачэснае месца сярод еўрапейскіх народаў, якое яна займае па праву. Мы пачынаем друкаваць скарочаныя ўрыўкі з гэтай кнігі.*

## МЫ - СЛАВЯНЕ

У жалезным веку на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі плямёны балтаў і славянаў. Мы – славяне. У нашых продкаў існаваў цікавы звычай. Каб мець права называцца мужчынам, хлопчык павінен быў пераплыць раку, здабыць мядзведзя або тура, распаліць пад дажджом вогнішча. А яшчэ сапраўдны мужчына муч\сіў абавязкова ведаць, кім былі ягоныя дзяды і прадзеды. таго, хто не ведаў, маглі нават выгнаць з сялібы, бо лічылася. што беспамятны чалавек лёгка можа зрабіцца здраднікам.

Людзі ў той далёкі час верылі, што побач з імі жывуць розныя багі, якія могуць паспрыяць чалавеку, а могуць і ўгнявіцца.Галоўны бог – Род.Ён гаспадарыў на зямлі і ў небе, кіраваў вятрамі, сонцам і зорамі. Ад яго імя ў нашай мове словы: радзіма, народ, продак, прырода, ураджай і іншыя. Грозным нябесным богам быў Пярун – волат са стрэламі-маланкамі. Багіню ўраджаю звалі Цёцяй. Аб свойскай жывёле клапаціўся Вялес. Тур наглядаў за дзікімі звярамі. Зюзя маразіў маразамі. Богам агню быў Жыжаль. Людзі верылі, што ў лесе гаспадарыць Лясун, а ў доме – Дамавік. Туманы над зямлёй рассцілаў Вадзянік, а на жытнёвым полі хаваўся Жыцень. Былі і іншыя багі.

Продкі ўмелі працаваць, умелі і весяліцца. Самым вясёлым святам былі Каляды. Па дварах хадзілі калядоўшчыкі. Яны вадзілі з сабою Бусла, Мядзведзя і Казу (пераапранутых):

Дзе каза рогам, там жыта стогам,
Дзе каза хвастом, там жыта кустом.

Улетку святкавалі Купалле. У купальскую ноч скакалі праз вогнішча, пускалі па рацэ вянкі. Верылі, быццам гэта ноч чароўная: з вечара да раніцы дрэвы могуць хадзіць, звяры – гаварыць, а людзі – разумець іх мову. У гэту ноч шукалі скарбы і збіралі зёлкі.

Светлым і радасным было свята гукання вясны, калі людзі клікалі добрых духаў і прасілі іх ажывіць зямлю пасля зімовага сну. Былі святы маладых усходаў, дажынкі і іншыя.

Славяне шанавалі сваіх продкаў, якіх звалі дзядамі. Увесну хадзілі да іх на магілы, а ўвосень дзядоў чакалі дома, частавалі іх, успаміналі іхнія добрыя справы. Гэтыя звычаі захаваліся, і сёння мы вясной святкуем Радуніцу, а восенню – Дзяды.

Нашы далёкія родзічы ведалі, што духоўная энергія роду не знікае бясследна, яна жывіць і ўмацоўвае ўвесь народ.

## БАЦЬКА ГАРАДОЎ БЕЛАРУСКІХ

Кожнае славянскае племя на нашай зямлі мела сваю назву. Вакол ракі Сож – радзімічы, паміж Прыпяццю і Бярэзінай – дрыгавічы, ля Дняпра, Дзвіны і вярхоўяў Волгі шырока рассялілася племя крывічоў. У месцы, дзе ў Дзвіну ўпадае Палата, быў заснаваны старажытны горад Полацк – бацька гарадоў беларускіх.

Ўзрост гарадоў лічаць з таго года, калі пра горад упершыню паведамляе летапіс. Дзякуючы летапісцам, мы ведаем, што Полацк ужо быў у 862 годзе, зараз яму 1149 гадоў (амаль на тры стагоддзі старэйшы за Маскву). У сапраўднасці Полацк больш старажытны, што падцверджана раскопкамі. Усе астатнія беларускія гарады значна маладзейшыя.

У Полацку тых часоў жыло каля пяці тысяч жыхароў. Простыя людзі сяліліся вакол гарадскіх умацаванняў, а за моцнымі сценамі жыў князь са сваімі дружыннікамі. Полацк ведалі і паважалі ў свеце. Ён стаяў на шляху з варагаў у грэкі, гэта дапамагала мацнець і багацець. Казалі, што ў Дзвіны дно залатое, а берагі сярэбраныя.

Тагачасны цалкам драўляны Полацк займаў плошчу ўсяго толькі адзін гектар, але яго ведалі нават антычныя грэкі і рымляне. Так, у творы Гамера ўпамінаецца рака Эрыдан, куды ўпаў у сваёй вогненнай калясніцы міфічны Фаэтон. Гэта адна з ранейшых назваў Заходняй Дзвіны. Дзвіна мела і іншыя старажытныя назвы: Рубон, Руба, Дуна, Дзіна. Згадваецца Полацк і ў скандынаўскіх сагах. Ёсць меркаванне, што і ў ісландскіх сагах пятага стагоддзя ўпамінаецца менавіта Полацк. Да пятага стагоддзя адносяцца і некаторыя керамічныя вырабы, знойдзеныя ў Полацку пры раскопках. Дата першага летапіснага ўпамінання Полацка супадае з упамінаннем пра Кіеў, але ў Кіеве узялі за аснову дадзеныя раскопак і адсвяткавалі 1500-годдзе.

У 907 і 911 гадах полацкія дружыны даходзілі паходам да Царгорада (Канстантынопаля) - сталіцы Візантыйскай імперыі. Царгорад працяглы час плаціў Полацку даніну.

*(Працяг у наступным нумары)*

# ГЭТА БЫЛО...

Характарызуючы жанры вуснай народнай творчасці ў кнізе " Мой белы дзень", Ніл Гілевіч не абмінуў увагай і такі з іх, як апавяданні-успаміны. Гэты жанр няказачнай прозы ў беларускай фалькларыстыцы пачалі выдзяляць нядаўна. Некаторыя з апавяданняў-успамінаў могуць быць аднесены да анекдотаў ці легенд. Але, у асноўным, гэта менавіта апавяданні, у якіх ад першай асобы, проста і звычайна, без прэтэнзій на мастацкасць расказваецца пра нейкія сапраўдныя, нявыдуманыя падзеі, здарэнні, выпадкі з мясцовага жыцця, удзельнікам ці сведкай якіх быў сам апавядальнік (або чуў пра іх ад сваіх блізкіх знаёмых). Паколькі здарэнні самі па сабе цікавыя, а мова апавядальніка – жывая, эмацыянальная, - гэтыя апавяданні-успаміны ўспрымаюцца як мастацкія творы. Некаторыя з іх стаяць на сумежжы звычайнай інфармацыі. Кожнае з гэтых апавяданняў да гэтага часу жыло ў памяці аднаго чалавека і расказвалася толькі ім, але публікацыя, запіс робяць іх з набытку памяці і і душы аднаго чалавека набыткам душы і сэрца многіх, пакідаюць у памяці. Гэта голас народа, голас праўдзівы, голас пра тое, што было. Цікавыя здарэнні ці падзеі з нейчага жыцця, анекдатычныя, драматычныя ці трагічныя эпізоды нядаўняй гісторыі каштоўныя сёння, і тым больш будуць каштоўныя заўтра.

Сёння мы адкрываем рубрыку пад назвай " Гэта было...", у якой кожны можа паспрабаваць змясціць свае апавяданні-успаміны.Званіце па тэлефоне 2-26-93, або пішыце на адрас: Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21. А для пачатку прапаную Вашай увазе дзве ўласныя гісторыі.

**Гэта было пасля вайны. Ля маёй роднай вёскі Кардон ёсць месца, дзе невялікі ручай упадае ў Дзвіну, яно завецца Вус. Кажуць, што на Вусу "зданькі (прывіды) здаюцца".**

**Калгасных коней улетку па начах пасвілі па чарзе, ахоўвалі ад ваўкоў, якіх шмат бадзялася ў тыя гады ў пошуках пажывы.Пастухі бралі з сабой стрэльбы, - не дубцом жа на ваўкоў махаць.**

**Аднойчы выпала пасвіць коней майму брату Пятру і дзеду Чарняўскаму. Распалілі касцёр. Коні скубуць траву. Цішыня і пакой. Стомленыя дзённай працай, разамораныя ля вогнішча, пастухі пазасыналі. Агонь патух. Ад ракі напоўз халадноваты туман. Першым прачнуўся ад холаду дзед. Ён устаў і пачаў тупаць ды махаць рукамі, каб сагрэцца. У сваёй белай прасторнай кашулі навыпуск, ён у цемры быў вельмі падобны на лётаючы прывід-зданьку. Пятро, прачнуўшыся, схапіў ружжо і стрэліў у "зданьку".Дзякуй Богу, што спрасоння ці ад страху не папаў у дзеда, бо ружжо было зараджана на ваўкоў.**

* * *

**Гэта было ў Бешанковічах. Я з дачкой ішла па вуліцы Кірава. Цёмна,ніводзін ліхтар не свеціць. На скрыжаванні з Савецкай пачулі п'янае мармытанне.Пэўна ляжыць нехта пасярод вуліцы, першая ж машына з-за павароту можа пераехаць. Падыйшлі мы і пачалі гэтага чалавека падымаць, каб хаця з сярэдзіны вуліцы адвесці. Было гэта на пачатку вясны, мароз к ночы браўся градусаў пад дзесяць. Чалавек быў апрануты ў футравую куртку і джынсы. Верхняй частцы яго цела было цёпла, а вось ніжняя, відаць, змерзла так, што небарака адчуваў, што ён наогул без штаноў. Спрабуем падняць, а ён адбіваецца: " Пачакай, я зараз штаны надзену". Ледзь давалаклі яго да нейкай лавачкі.**

**В. Гракун.**

## КІАДЗІ СЛОВА Ў ЛАД

<u>*По одёжке встречают, а по уму провожают.*</u>
Не кожны пан, хто ў ботах.
Адзеўся, як пава, ды дурная слава.
Не кожны п'яны, хто вясёлы.

<u>*Мягко стелет, да жёстко спать.*</u>
На языку мёд, а на ссэрцы лёд.
Лістам сцелецца, а укусіць цэліцца.
Гаворыць па беламу, а ломіць па чорнаму.
Вуснамі мёд разлівае, а за пазухай камень трымае.

<u>*Долг платежом красен*</u>
Што вінен, аддаць павінен.
Умеў узяць, умей і аддаць.
Круці не круці, а ўзяў – заплаці.
Прыйшоў з мехам, не адробіш смехам.

<u>*Соловья баснями не кормят.*</u>
Слоў на мех, а спраў на смех.
Каб так смыкам, як языкам.

<u>*Запретный плод сладок.*</u>
Як кажуць "не", то хочацца ўдвайне.
Дзе плот ды дзядуля, там смачнейшыя дулі.

* * *

Я - зноў аб галоўным і кроўным.
Навокал, куды ні зірні,
Знікаюць бары і дубровы,
На высечках - голыя пні

Знікаюць паданні, быліны,
І мова знікае... Праз час
Ніякіх, магчыма, спамінаў
Ніколі не будзе пра нас...

А калісь мой прашчур далёкі,
Хаця ў незаможнасці рос,
Ды дбаў пра Айчыны вытокі
Ля вечных і светлых бяроз.

* * *

Ішлі святыя па дарогах
Айчыны нашае здавён.
У сэрцах неслі вобраз Бога,
Святло для хлебадайных дзён.

І сёння скрозь абсяг трыважны
Самотны узыходзіць шлях.
...А мы святых спазнаць не можам,
Пакуль яны не на крвжах.

Алесь Бабаед

**«Кардон» - інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Віцебскай абласной Рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны (для Бешанковіцкага раёна). Выходзіць пры падтрымцы Віцебскай аддзялення грамадскага аб"яднання «Фонд імя Льва Сапегі».**
**Рэдкалегія: В. Гракун, А. Бабаед, Г. Станкевіч.**
**Вёрстка: Б. Алінін**
**Наклад: 299**
**Распаўсюджваецца бясплатна**